


# Архілох

## Вершы і фрагменты

n

# Архілох

## Вершы і фрагменты

*Пераклад са старагрэцкай*
*Лявона Баршчэўскага*

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2019

УДК 821.14'02-1
ББК 84(0)3-5
А87

Серыя заснаваная ў 2016 годзе.



Крыніцы перакладу і змешчаных у зносках каментароў да вершаў:

*Frühgriechische Lyriker II*: Archilochos, Semonides, Hipponax.
Hrsg. von B. Snell. Berlin: Akademie-Verlag, 1976.
Arquiloque. *Fragments* / Texte établi par F. Lassette.
Paris: Les Belles Lettres, 1958.
*Iambi et elegii Graeci ante Alexandrum cantati*. Ed. by M. L. West.
Oxford University Press, 1998.
Архілох. *Хліб на списі*. Переклад з давньогрецької, передмова,
коментарі Андрія Содомори. Львів: Піраміда, 2014.

На вокладцы:

*Невядомы аўтар,*
*Партрэт барадатага мужчыны (Архілоха?)*
*(Рымская копія II ст. н. э. з грэцкага арыгінала IV ст. да н. э.).*

**ISBN 978-985-23-0078-0**

# ЭЛЕГІІ

***

*(Εἰμὶ δ’ ἐγὼ θεράπων μὲν Ἐνυαλίοιο ἄνακτος...)*

Я Энюалію-ўладару[1] дзідай служу, ды не меней нізвання
Здольнасцяў ёсць у мяне ў тым, што ад Муз атрымаў.

---

[1] Адно з паралельных імёнаў бога вайны Арэса.

***

*(Ἐν δορὶ μέν μοι μᾶζα μεμαγμένη...)*

Ма́ю ад дзіды штодзённы свой хлеб і ад дзіды я маю
Трохі ісмарскіх він[1]: з дзідай іх п’ю, пад рукой.

[1] Гатункі він з Фракіі, якія згадваюцца яшчэ ў гамераўскай «Адысеі».

***

*(Οὔ τοι πόλλ᾽ ἐπὶ τόξα τανύσσεται...)*

Лукаў напятых зусім не відаць, не выцягваюць прашчаў
Там, дзе на полі шыхты звёў ваяўнічы Арэс.
Чуюцца стогны навокал, дзе меч мае справу даканчыць –
Вось жа, у бітвах такіх роўных не маюць сабе
Родам з Эўбеі[1] мужы-дзіданосцы...

[1] Адна з самых вялікіх грэцкіх выспаў, знаходзіцца непадалёк ад берага ў заходняй частцы Эгейскага мора.

***

*(…Ἀλλ᾽ ἄγε, σὺν κώθωνι θοῆς διὰ σέλματα νηὸς…)*

…Хутка па моры плыве карабель –
                                        не лянуйся ўздоўж лаваў
Збан свой з чырвоным вінам спрытна насіць, наліваць
Шчодра, але не да гушчы самой.
                                        Бо інакш як мы зможам,
Трошкі не выпіўшы, ноч гэту пры вёслах адбыць?

***

*(Ξείνια δυσμενέσιν λυγρὰ...)*

Мера гасціннасці ў нас –
ворагам дорым мы смерць.

***

*(Ἀσπίδι μέν Σαΐων τις ἀγάλλεται...)*

Хтосьці з саійцаў[1], напэўна, шчытом ганарыцца,
што кінуў
Быў у кустах я: мне шчыт колісь аховаю быў.
Гэтак збярог я душу, ну а шчыт?
Мне не шкада яго – іншы,
Нават не горшы сабе я, калі трэба, куплю.

[1] Так грэкі называлі жыхароў фракійскага племя, супраць якога ваявалі каланісты з вострава Тасас.

***

*(Κήδεα μέν στονόεντα Περίκλεες οὔτέ τις ἀστῶν...)*

Каб, о мой сябра Перыкл, жалобы ані не парушыць,
Кожны сярод гараджан ад забаў адцураўся ды ўцех.
Столькі шаноўных людзей хваля мора за раз праглынула,
Што грудзі сціснулі нам скруха, рыданні й туга!
Ды ад нясцерпнай тугі багі нам пакінулі сродак –
Дух наш трывалы наўсцяж не пахіснецца ў бядзе.
Кожнаму можа даць лёс выпрабаванне цяжкое:
Ў бедах крывавых тады будзе ён мусіць трываць.
Заўтра пацэліць бяда ў другога – то вы, як жанчыны,
Ўжо не рыдайце: усё трэба стрываць да канца.

***

*(...πάντα Τύχη καὶ Μοῖρα...)*

...Шчасце і лёс свой, Перыкл, людзі заўсёды ствараюць...

***

*(Αἰσιμίδη, δήμου μὲν ἐπίρρησιν...)*

Плёткі ліхіх языкоў, Айсімід[1], даспадобы нікому,
Пэўна, яшчэ не былі, колькі трывае наш свет.

---

[1] Імя аднаго з сяброў аўтара верша.

***

*(...Εἰ κείνου κεφαλὴν καὶ χαρίεντα μέλεα...)*

...вось ляжыць у багоў на каленях –
Гэта яго галава, й гожае цела яго
Ў белы загорне саян з пашанай Гефэст вогнеўладны.

***

*(Κρύπτομεν δ’ ἀνιηρὰ Ποσειδάωνος…)*

Колькі журботных дароў Пасейдона, уладцы марскога,
Тут пахаваем…

***

*(…πολλὰ δ᾽ ἐυπλοκάμου πολιῆς ἁλὸς ἐν πελάγεσσι…)*

…Слёзна малілі багоў аб ратунку на моры, што пышна
Закучаравілася…

***

*(Γλαῦκ᾽ ἐπίκουρος ἀνὴρ...)*

Наймiт у бiтве пакуль – Глаўк[1], ты ўважай яго сябрам...

[1] Глаўк быў вайскаводам у Архiлоха.

***

*(Πάντα πόνος τεύχει θνητοῖς...)*

Боль і пакуты паўсюль твораць людзей чалавечных...

***

*(Συκῆ πετραίη πολλὰς βόσκουσα κορώνας...)*

Смоква на чорнай скале, што гадуе варон незлічоных,
То Пасіфіла ўвесь час рада каханкаў прымаць.

***

*(...οὔτέ τι γὰρ κλαίων ἰήσομαι...)*

Гора рыданнямі не заглушу, дый яго не зраблю я
Горшым, калі баляваць і святкаваць я пачну.

# ЯМБЫ

## Трыметры

***

*(...Ἥδε δ’ ὥστ’ ὄνου ῥάχις...)*

    ...На далягалядзе, як хрыбет асла,
Ён з мора выпнуўся, на ім – спрэс дзікі лес.
.............................................................................
Мясціна іншая, аднак не тая, мілая,
Дзе Сірыс[1] гоніць хвалю шпарка ў берагах.

[1] Рака ў паўднёвай Італіі, дзе грэкі тады мелі сваю калонію.

***

*(Καὶ μ' οὔτ' ἰάμβων...)*

Лірычных ямбаў лад? Забава проста так?
Я тым займаюся...

***

*(Ψυχὰς ἔχοντες...)*

...І душы ўзятыя ў абдоймы хвалямі...

***

*(Οὔ μοι τὰ Γύγεω τοῦ πολυχρύσου μέλει...)*

На Гі́гесавы[1] скарбы я нават не зірну;
Я не зайздрослівы, і на чыны багоў
Я не злую, на ўладу я не захварэў –
Усё яно далёка ад вачэй маіх!

[1] Гігес, першы вядомы цар Лідыі (першая палова VII ст. да н. э.), славіўся сваімі незлічонымі багаццямі.

***

*(Οἵην Λυκάμβεω παῖδα...)*

Дачка Люкамбава[1] ў душы маёй адна...

[1] Люкамб быў бацькам Неабулы, каханай лірычнага героя, якая не адказала яму ўзаемнасцю.

***

*(...ἔχουσα θαλλὸν μυρσίνης ἐτέρπετο...)*

Трымаць іголку мірта як жа люба ёй!
У косах – ружа, й вабны цень ад іх
І плечы ёй акрыў, і шыю зграбную.

..........................................................
...............пах валасоў, грудзей краса –
Усё, што і старога дзеда звабіла б.

***

*(«... γύνα[ι], φάτιν μὲν τὴν...»)*

«...Жанчына, так не параймайся ты
Людскою злосцю. Я вось толькі на дабро
Зважаю, й ты такою будзь – прыхільнаю.
Ці ж я ў тваіх вачах няшчасны аж такі?
Ці баязлівец? Не, не гэткі я зусім!
Такімі не былі дзяды, дый прадзеды.
Умею з сябрам сябраваць, а з ворагам –
Варагаваць – і словам, нібы той мураш,
Уесці. У вяшчунстве голас праўды ёсць –
Каб я вярнуўся ў горад, што быў толькі што
Ўвесь зруйнаваны лютым ворагам ліхім;
Яго я адваюю дзідаю й праслаўлюся,
У ім зраблюся ўладаром з усёю ўладаю –
І пазайздросціць кожны поспеху майму!»

***

*(…νηῒ σὺν σμικρῇ μέγαν…)*

…Вярнуўся на караблiку
…з таварам ты[1] з Гартынii[2],
  не стаў пажывай рыбам, каршунам,
…я рады за цябе. Бо некалi
…i я тавару безліч вёз:
  ледзь не разбагацеў,
  ды ўсё пайшло на дно.
  І марна спадзяваўся я,
  што нешта хваля выкiне
  на бераг – анiчога, не!
  забрала мора ўсё сабе!
  Ты меў шчаслівы лёс:
  ад дзiд i стрэлаў ацалеў,
  i мора не пакрыўдзiла…
  А я згубiў дарэшты ўсё,
  сам-насам з морам я
  змагаўся, навакол – iмгла.
…ды ў цемры ўбачыў я на Па́расе
  агнi, й то быў ратунак мой!

---

[1] Зварот да Айсiмiда, сябра паэта.
[2] Мясцовасць у цэнтры паўвострава Пелапанэс.

***

*(Οὐ κοινή τις ἀνθρώπων...)*

Мы, людзі, ўсе паміж сабой падобныя:
Свой нораў ёсць у кожнага. І сам сябе
Ўлагоджвае хто як: так, хцівец песціць плоць,
Пастух жа рад, калі адбіўся ад тарантула.
А я (і толькі я) умею прамаўляць
Высокім словам да цябе – вось гэткі дар
Ад Бацькі-алімпійца мной атрыманы,
І Эўрымант[1] таму не запярэчыў бы.
Чаканні вусцішна так робяць на душы:
А раптам штосьці на галінках вырасце...

---

[1] Імя вешчуна.

***

*(Ἄναξ Ἄπολλον, καὶ σὺ τοὺς...)*

Бог Апалон, ты вінаватых пакарай
Як можаш ты – а сам нам абаронцам будзь!

***

*(Ἔστη κατ᾿ ἠκὴν...)*

Між хвалямі й вятрыскам моцны рух...

***

*(Ὡς κηρύλος…)*

…як зімародак,
Малы пакінуты птах на скале…

***

*(Βίος δ' ἀπράγμων τοῖς γέρουσι συμφέρει...)*

Бяздзейнасць падыходзіць людзям пажылым,
Найперш калі іх не даймае аніўшто.
І ў будучым сабе не будуць галаву
Тлуміць старыя тыя самыя нічым.

***

*(Ὥσπερ παρ᾽ αὐλῷ βρῦτον...)*

Калі фрыгійцы ці фракійцы піва п’юць
Цераз саломінку, яна – на кукішках...

***

*(Βαθεῖ φέροντα νῆες ἐν πόντῳ θοαὶ...)*

У мора скіраваны шлях шпаркіх караблёў –
То ветразі ўздымайма, тугія ліны ўсе
Здымайма! Нас у гавань, наш стырнавы, вядзі –
Ды з ветрыкам, каб добра нам думаць пра цябе!
На хвалі ды на скалы падводныя зважай,
Будзь пільны: ўсё прадумвай, глядзі як след наўкол.
А зберажэш нас – слаўным быць імені твайму...

## Тэтраметры

***

*(...Ἐρξίη, πῇ δηὖτ᾽ ἄνολβος...)*

Як жа Эрксій[1], дух змагарны ў лютай бітве нам узняць?

[1] Відавочна, гэта імя вайскавода, да якога лірычны герой звяртаецца з заклікам, каб той зладзіў абарону роднай выспы Па́рас супраць ворагаў з вострава Наксас.

***

*(Τῆς νῦν πάντες...)*

Сутыкнуліся ўсе ў бойцы...
Цёмна ўкруг палёў са збожжам...
Вораг *тут* – віна ў тым наша...
Плоць жывая спаміж гліны...
Шыхт наксійцаў... кроў і стогны...
Высечана ўсё дашчэнту...
Ці мы здолеем адбіцца?..
Дзе ратунак ад іх дзідаў?..
Ад крыві яны шалеюць...
Ці мы гвалту паддамося?...
Ці ўсіх нас чакае ганьба?..
Ці ім дзідамі адпомсцім?..
За спустошаныя вёскі...
За знішчэнне тых палеткаў...
Вінаграднікаў раскошных...
За бацькоў, дзяцей і жонак...
Вось што я на сэрцы маю...
Вось пра што хацеў я мовіць...
Тым, хто чуць мяне хацеў бы...
І змагацца не баіцца...
Ды на Тáсасе шмат вояў...

Хтосьці б’ецца пад Таронай[1]…
Іншыя ж – яшчэ ў дарозе…
І дымы здалёку бачаць…
Памагчы яны хацелі б…
Помсціць ворагам – з братамі…
Эрксій[2], паспрабуй жа хвалю…
Супыніць вяслом, ратунак…
Пашукай. Знак добры з неба…
Мы адбіць узвышша можам!..

---

[1] Горад з такою назвай знаходзіўся на паўвостраве Халкідыка ў тагачаснай Македоніі.

[2] Гл. заўвагу да папярэдняга верша.

***

*(Χρημάτων ἄελπτον οὐδέν...)*

Што б назваў ты немагчымым, нечаканым, нібы цуд –
Калі бацька Алімпійцаў, Дзэўс, бляск сонца патушыў,
Дыск прыцьміўшы, ўдзень раптоўна
на зямлю насунуў ноч –
І ў той хвілі авалодаў кожным чалавекам жах?
З той пары няма для люду немажлівых рэчаў, каб
Не магчы ў дзівосы верыць. Хай не дзівіцца ніхто,
Як аднойчы ў пашчы мора ўбачыць не дэльфінаў там,
А жывёліну, якая кінецца ў марскую глыб,
Ці дэльфіны ў горы рынуць, у лясы, што там растуць.

***

*(Οὐ γὰρ ἐσθλὰ κατθανοῦσι...)*

Кпіць з памерлых – гэта ганьба,
што б там хто нам ні казаў...

***

*(…Κλῦϑ’ ἄναξ Ἥφαιστε…)*

…Выслухай мяне, Гефэсце, – ўкленчваю я прад табой:
Будзь прыязным, дай таго нам
шчодра, што дарыць прывык!

***

*(Αὐτὸς ἐξάρχων πρὸς αὐλὸν...)*

Заспяваю сам да флейты, флейты з Лесбаса пеан...

***

*(Εἰ γὰρ ὣς ἐμοὶ γένοιτο...)*

Каб жа мне да Неабулы дакрануцца, да рукі!..

***

*(Καὶ πεσεῖν δρήστην...)*

Каб упасці ёй на грудзі й жыватом да жывата
І сцягном сцягно адчуць каб...

***

*(Τὸν κεροπλάστην ἄειδε Γλαῦκον...)*

Глаўка апявай: як рогі ўклаў сабе ён кудзеры...

***

*(...οὐ φιλέω μέγαν στρατηγὸν...)*

Не люблю я вайскавода, што хай мае пругкі крок,
Кудзеры хай падпраўляе, хай і ростам немалы –
Ды хай лепш бы нізкаваслы й крываногі быў, але
Што галоўнае: хай меў бы сэрца мужнае ў грудзях.

***

*(Πολλὸν δὲ πίνων καὶ χαλίκρητον μέθυ...)*

Выпіць столькі, колькі ўлезе, можаш чыстага віна
І не заплаціць пры гэтым...
Быццам бы сюды як сябар ты й запрошаны не быў,
Ды твае развагу й розум страўнік, пэўна, перамог...

***

*(Ὡς Διωνύσοι᾽ ἄνακτος καλὸν...)*

Ма́ю здольнасць дыфірамбы я Дыёнісу складаць –
Толькі хай віно, як громам, страсяне маю душу.

***

*(Ὡς Πανελλήνων ὀϊζὺς ἐς...)*

Усяэлінскае гора, вось, на Тасас рушыла...

***

*(...Τῶν δ' Ἀθηναίη μάχηι...)*

у бойках за хаўрусніцу
Ў іх была Афіна, Дзэўса грамаўладнага дачка –
Бо яна вяртала сілу духу слабым ваярам.
Вось яны на гэтых землях заснавалі гарады,
Пачалі палі навокал з новай сілай урабляць.
Ды за высілкі нізвання спачуванняў не было.
Ім багі паабяцалі выспу гэтую...

***

*(Γλαῦχ᾽ ὅρα· βαθὺς γὰρ ἤδη κύμασιν…)*

Глаўк, зірні: над глыб'ю мора ўсходзяцца ўсцяж буруны,
А вунь там, дзе Гіры[1]-скалы, буры чорным вестуном
Хмара грозная навісла; страх душу апанаваў.

---

[1] Дзве стромыя скалы, што ўзвышаюцца на выспе Тэнас у цэнтральнай частцы басейна Эгейскага мора.

***

*(Ἔα Πάρον καὶ σῦκα κεῖνα...)*

Кіньце Парас, тыя смоквы ды надморскі лад жыцця!..

***

*(Ἐρξάτω δ᾽ ἐτήτυμον…)*

Не ўцячы нідзе ад праўды, што Арэс – для ўсіх адзін.

***

*(Καὶ νέους θάρσυνε...)*

Узбадзёрвай навабранцаў: перамога ж – ад багоў.

***

*(...τοῖος ἀνθρώποισι θυμός, Γλαῦκε...)*

Глаўк, Лептынаў сыне, людзі маюць гэткі стан душы,
Гледзячы, святло якое пасылае з неба Дзэўс.
А калі ўсё йдзе як трэба, ім звычайна ўсё адно.

***

*(Οὔ τις αἰδοῖος μετ᾽ ἀστῶν...)*

Мёртваму не дачакацца шанавання ў грамадзян,
Пахвалы не дачакацца: дастаецца ўсё жывым.
Доля мёртвых самай горкай увесь час была і ёсць.

***

*(ϑυμέ, ϑύμ᾽, ἀμηχάνοισι κήδεσιν κυκώμενε...)*

Гэй жа, дух мой шматпакутны, нішчаны з усіх бакоў! –
Цвёрды будзь, не паддавайся!
                                        Супраць ліха ўстань грудзьмі
І не бойся! Не схіліся, як смяротны бой пачнеш
З ворагам. І з перамогі ты не цешся пры людзях,
А прайграўшы бітву, дома ў роспач не ўпадай ані.
Трэба цешыцца з уцехаў, а ў тузе тужыць умець,
Ды не надта. Ведай: наша зменлівае ўсё жыццё.

***

*(Νῦν δὲ Λεώφιλος μὲν ἄρχει...)*

У Леофіла[1] ўся ўлада, час Леофіла прыйшоў.
Дый Леофілу ўсё можна, маеш слухацца яго.

[1] Так звалі (імя даслоўна абазначае «народалюбец») разбагацелага жыхара Параса, які не зусім сумленна, на думку лірычнага героя, дамогся высокіх пасад.

***

*(Τοῖς ϑεοῖς ...τ’ εἰϑεῖάπάντα... πολλάκις μὲν ἐκ κακῶν...)*

Лёгка ўсё багам даецца: часта тых, хто ніц упаў
На зямлю, пачнуць выпростваць, ну а тых, хто па жыцці
Ўпэўнена хадзіць прывычны – тых яны, наадварот,
Тварам угару кладуць: тады ўжо і даймае іх бяда –
Ўбогія, яны блукаюць, нібы страціўшы свой клёк.

***

*(Μηδ' ὁ Ταντάλου λίθος...)*

Хай ужо Танталаў камень
Не вісіць над нашай выспай...

# ЭПОДЫ

***

*(Τοιήνδε δ', ώ πίθηκε...)*

Ты, малпа, з гэткім задам хочаш цараваць?..

***

*(«...πάμπαν ἀποσχόμενος·ἶσον δὲ τολμήσω...)*

«...Стлуміўшы ўвесь свой юр,
Наважся ты на гэтае...
Калі ж упарта, спраглы, хочаш ты свайго, –
Ёсць на прыкмеце ў нас адна:
Даўно ты ёй прыгледзеўся –
Цвіце, як ружа, прыгажуня. Ты даверся мне –
Не папракнеш яе нічым: салодкую
Сабе займееш спадарожніцу»,–
Казала мне. Я ёй на тое адказаў:
«Дачушка Амфімеда, тая, што і розумам,
І знатнасцю была між першых першая, –
Ужо й яна ў зямлі. Так шмат багіняю
Уцех для маладых было прыдумана,
Апроч высокіх спраў, – досыць з іх адной.
Што ж да заручынаў... Хай толькі ноч
Раскіне скрыдлы, з ёю мы пра гэтае –
І з дапамогаю багоў, паразмаўляем удваіх.
Што загадаеш – я зраблю, і свайго поцягу
Тлуміць не буду недзе пад варотамі
Ці на паддашку, а калі няможна так –
У траваністым садзе. Слухай жа мяне:
Хай нехта Неабулу іншы сватае,
У два разы старэйшую, чым ты –

Ужо адцвілую, бо ад прывабнай гожасці
Яе няма і следу. Так, яе юрлівасці
Няма ніякіх межаў па-ранейшаму –
Хай на яе кадук! Такую ў дом не прывяду,
На смех суседзям і сабе – на глум.
Я ж не здурнеў зусім! А вось цябе пасватаў бы:
Хлусіць не ўмееш ты – і не двурушная.
Яна ж з кім толькі не круцілася –
Таму й баюся, каб, нібы сабака той,
Не напладзіў сляпых я байструкоў».
Сказаўшы гэта, я на пахкую траву
Дзяўчыну спрытна ўклаў, акрыў, дрыготкую,
Накідкай мяккай, моцна так яе абняў
І песціў, супакойваючы, бо яна
Трымцела ўся, як лань упаляваная...
Адчуў на дотык цела ўсё яе – і тут
Яна, паддаўшыся, сваёй чароўнасцю
Мяне абдорваць пачала: ужо ўсутыч
Былі два целы нашы, й адчуваючы
Рукой яе валоссе светлае, я ўвесь запал
Нястрымны ёй аддаў...
Ты не квітнееш больш, не ружавееш, як калісь:
Спрэс – зморшчыны ад старасці паўзучае.
Нібы здзьмуў вецер чар вабнотаў колішніх,
Бо неўтаймоўны той напор ты зведала
Не раз, не два разы – іх не злічыць...

***

*(Πάτερ Λυκάμβα, ποῖον ἐφράσω τόδε;)*

Люкамбе-бацька, што з табой, скажы?
Ці ты зусім свой страціў клёк?
Учора меў пашану – і ўжо места ўсё
Цяпер з цябе няспынна кпіць.

***

*(«...ὦ Ζεῦ, πάτερ Ζεῦ, σὸν μὲν οὐρανοῦ κράτος...»)*

«...О Дзэўс, о бацька Дзэўс, у небе валадарачы,
Ты ж бачыш справы ўсіх людзей –
І добрыя, й ліхія. Бачыш, як і звер жыве:
Ці гвалтамі, ці праўдаю».

***

*(Τοῖος γὰρ φιλότιμος ἔρως...)*

Гэтая прага любоўная, мне перапоўніўшы душу́,
Тут жа пасеяла змрок уваччу,
Скрала пачуцці пяшчоты ў грудзях.

***

*(…δύστηνος ἔγκειμαι πόθωι…)*

Туга мяне дабіла ўшчэнт –
Ляжу, ледзь дыхаю: відаць багам заўгодна,
Каб жар аж да касцей мяне праймаў.

# ГІМН ГЕРАКЛУ

## *Гімн Гераклу і Іалаю*[1]

*(Ὕμνος εἰς Ἡρακλέα καὶ Ἰόλαον)*

Уславім спевам трыумфатара,
Геракле, валадар!
Таксама й Іалая з кап'яносцамі.
Уславім спевам трыумфатара,
Геракле, валадар!

[1] Імя блізкага сябра і спадарожніка Геракла, што перамог на Алімпійскіх гульнях у гонках на калясніцы, у якую былі запрэжаны Гераклавы коні.

# ТВОРЫ, ЯКІЯ ПРЫПІСВАЮЦЦА АРХІЛОХУ

***

*(Ἡ χλαῖνα δηλοῖ σχετλίη...)*

...Твая накідка моцна выпінаецца:
Відаць, пад ёю нешта там схаванае.
Пра гэта Гіпанакт, напэўна, ведае,
Дый Арыфант не мог не ўгледзець гэтага.
Той шчасны, хто не пазнаёміўся
Са злодзеем смярдзючым. Ім абкрадзены,
Хай Айсхілід-ганчар цябе і выкрые.

***

*(Κύματι πλαζόμενος...)*

...І хвалі б кідалі яго,
Каб ля Салмідэса[1] ў палон ён трапіў да фракійцаў злых –
Ён напакутаваўся там бы на нявольніцкіх харчах!
Каб узялі яго замерзлага і голага – у водарасцях усяго,
А ён зубамі, як сабака, клацаў бы,
ляжаў знямоглы на пяску
На спіне, па адліве хваль. І быў бы моцна рады я,
Калі б такім убачыць мне таго,
хто ўсе прысягі растаптаў, –
Былога сябрука...

[1] Мясцовасць і горад у старажытнай Фракіі, каля Баспора.

***

*(Τροπαῖον ἕστηκ᾽· εὐφρόνη...)*

Нарэшце, перамогу маем мы над ворагам,
І ўжо заваяваны намі гэты край,
Тут Пасейдон мяне ад буруноў уратаваў,
Святы абшар, але няплодны, без яго
Ніхто б наогул і не атрымаў.

***

*(Ἦν πρόσφατον ποίησα τεταριχευμένην...)*

Табой, якую меў я колісь свежаю,
Шмат кабарнідаў[1] потым скарысталася,
Ты сем гадоў адна ў мяне была,
Пакуль не аддалася шчыра іншаму.
Цяпер ты выпінаешся, спрачаешся,
Ты дзесяць курваў прывяла ў мой дом,
Пакуль я быў далёка. Памяняй жа вопратку,
Пакінь мой дом, займіся ўночы справамі
З такімі, хто ў жанчын і мужам не бываў.

[1] Адна з назваў жыхароў выспы Парас.

***

*(Ἐπεὶ δὲ χειρῶν δούρατ’ ἔκπαλλον, κρέων...)*

Як дзіды вылецелі з іхніх рук,
Іх цар пачаў іх ганіць словамі –
Іх годнасць тым была прыніжана.
Бо там Афіна ўвышыні з’явілася,
Знак падала. І то былі не па́расцы,
Што на каменні ўміг збаны паставілі,
А гэта ўсё былі эолійцы. І калі мур,
Што быў памалу ўзведзены карыйцамі
І бараніў іх, праламаны быў,
Тады вось музыка лесбійскіх лірнікаў
Пачулася між нашымі плямёнамі,
Ўсе танчыць пачалі, за рукі ўзяўшыся,
І ў тым спрыяў ім алімпійскі Бацька Дзэўс.
А пераможаныя, ў жаху адчуваючы,
Што страцілі ўсё тое, чым валодалі,
Што спадзяванняў болей ні на што няма,
Сядзелі ціха і чакалі досвітку.

# ЗМЕСТ

## ЭЛЕГІІ



## ЯМБЫ

## ЭПОДЫ



## ГІМН ГЕРАКЛУ



## ТВОРЫ, ЯКІЯ ПРЫПІСВАЮЦЦА АРХІЛОХУ

У серыі «Паэты планеты», акрамя вершаў і фрагментаў Анакрэона, таксама ёсць у продажы зборнікі такіх паэтаў, як:

Сапфо «Песні»
Франчэска Петрарка «Выбраныя песні з «Канцаньерэ»
П’ер дэ Рансар «Выбраныя вершы»
Ўільям Шэкспір «Выбраныя санеты»
Ёган Вольфганг Гётэ «Выбраная паэзія»
Габрыэла Містраль «Выбраныя вершы»
Умар Хаям «Выбраныя рубаі»
Шарль Бадлер «Выбраныя вершы»
Райнэр Марыя Рыльке «Выбраная лірыка»
Фрыдрых Гёльдэрлін «Выбраная паэзія»
Генрых Гайнэ «Выбраныя вершы»
Гіём Апалінэр «Выбраная паэзія»
Эдгар По «Выбраныя вершы»
Федэрыка Гарсія Лорка «Выбранае»
Джон Кітс «Выбранае»
Рыгор Барадулін «Паравыбранае»
Дзімча Дэбялянаў «Выбранае»
Гай Валерый Катул «Выбраныя вершы»
Яраслаў Вырхліцкі «Выбраная паэзія»
Ян Каханоўскі «Выбранае»
Катры Вала «Выбраныя вершы»
Канстандзінас Кавафіс «Выбранае»
Барыс Пастарнак «Выбраная лірыка»
Аляксандр Чакс «Выбраныя вершы»
Хуан Рамон Хіменэс «Выбраная лірыка»
Юлі Таўбін «Выбранае»
Хаім Нахман Бялік «Выбраная паэзія»
Баляслаў Лесьмян «Выбраныя вершы»
Шандар Петэфі «Выбраная паэзія»
Міхай Эмінэску «Выбраная паэзія»
Ўільям Батлер Ейтс «Выбраныя вершы»
Эмілі Дыкінсан «Выбраная лірыка»

Алесь Разанаў «Перавыбранае»
Мацуа Басё «Выбраныя хайку»
Георг Тракль «Выбранае»
Сяргій Жадан «Вершы»
Рабіндранат Тагор «Гітанджалі»
Сэсар Вальеха «Выбраныя творы»
Сігб'ёрн Обстфельдэр «Выбраная паэзія»
Томас Стэрнз Эльёт «Выбраная паэзія»
Арцюр Рэмбо «Выбранае»
Нікалоз Бараташвілі «Паэзія»
Фрыдрых Шылер «Выбраная паэзія»
Умбэрта Саба «Выбраныя вершы»
Марк Валерый Марцыял «Выбраныя вершы»
Ўолт Ўітмэн «Выбраная паэзія»
Візма Бэлшавіца «Выбраная лірыка»
Мікола Зэраў «Выбраная паэзія»
Адам Міцкевіч «Выбраныя вершы»
Юсцінас Марцінкявічус «Выбраная лірыка»
Бгартрыгары «Выбраныя вершы»
Эдыт Сёдэргран «Выбраная паэзія»
Ду Фу «Выбраная лірыка»
Эрлінг Кітэльсен «Выбраная лірыка»
Ўільям Блэйк «Выбранае»
Уладзімір Маякоўскі «Паэзія»
Гунар Экелёф «Выбраная лірыка»
Вільгельм Мюлер «Выбраная лірыка»
Анакрэон «Песні і фрагменты»
Энхедуанна «Сакральная паэзія»
Срэчка Косавел «Выбраныя вершы»

По пытаннях набыцця кніг
серыі «Паэты планеты» звяртайцеся:
paety.planiety@gmail.com
Тэл./факс (17) 221.48.71, маб. (29) 623.35.65.

**Архілох**
А87 Вершы і фрагменты / Архілох; пер. са старагрэцкай Лявона Баршчэўскага. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2019. — 80 с. (Паэты планеты).
ISBN 978-985-23-0078-0.

Архілох (каля 680 – каля 645 г. да н. э.) – старагрэцкі творца, самы старажытны з вядомых на сёння еўрапейскіх паэтаў-лірыкаў. У фрагментах яго вершаў і паэм, што дайшлі да нас з глыбінь вякоў, шчыльна пераплецены самыя інтымныя перажыванні з іроніяй і сарказмам, звернутымі да людзей, якіх паэт успрымаў адмоўна.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**ББК 84(0)3-5**
**УДК 821.14'02-1**

Серыя «Паэты планеты»

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Архілох

# ВЕРШЫ І ФРАГМЕНТЫ

Дызайн *Марціна Русецкага*
Адказны за выпуск *Зміцер Колас*



Падпісана ў друк 18.11.2019. Фармат 60×90 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 1,19. Ум. друк. арк. 2,50.
Наклад 250 асобнікаў.

Выдавец і паліграфічнае выкананне
індывідуальны прадпрымальнік Зміцер Колас.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў № 1/291 ад 17.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220023, Мінск.